# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 20 кастрычніка 1994 года | № 112 (10812) | Цана 30 руб.


■ Парламент: дзень за днём

## МОЖА, ГЭТЫЯ ЗАКОНЫ — ГАЛОЎНЫЯ?

Нечаканы ракурс набыло ранішняе пасяджэнне парламента рэспублікі 18 кастрычніка: ад праблем унутранай заканатворчасці — да праблем законаў, якія карэспандуюцца. Гэты аспект у дзейнасць народных дэпутатаў прыўнесла выступленне кіраўніка дэлегацыі Савета Федэрацыі Расіі, якая спецыяльна прыбыла ў Вярхоўны Савет Беларусі, старшыні Камітэта па бюджэту, фінансаваму, валютнаму і крэдытнаму рэгуляванню, грашовай эмісіі, падатковай палітыцы і мытнаму рэгуляванню верхняй палаты Федэральнага сходу Расіі Мікалая Ганчара.

— Працэс эканамічнай інтэграцыі ў дзяржавах Садружнасці ідзе нездавальняюча, і з гэтым, думаю, спрачацца ніхто не будзе, — заявіў Мікалай Ганчар. — Прычыны мы бачым у адсутнасці механізма, і ў сувязі з гэтым звяртаемся да парламентарыяў Украіны, Казахстана і Беларусі з прапановай па яго прапрацоўцы.

Расія звязвае надзеі на эканамічную інтэграцыю са стварэннем законаў, якія карэспандуюцца і здольны ў кожнай з дзяржаў стварыць адэкватнае прававое поле. Цяпер у верхнюю і ніжнюю палаты Федэральнага сходу Расіі ўнесены праект аднаго з іх — "Аб стварэнні фінансава-прамысловых груп". Ён, безумоўна, распаўсюджваецца толькі на тэрыторыю Расійскай Федэрацыі, аднак прадугледжвае магчымасць уваходжання ў састаў такіх груп фінансавых і прамысловых структур краін Садружнасці. У сувязі з гэтым заканадаўцы Расіі прапануюць сваім калегам з Украіны, з Казахстана і Беларусі прапрацаваць варыянты прадастаўлення аналагічнага рэжыму гаспадарання для фінансава-прамысловых груп на сваіх тэрыторыях.

— Нашы падыходы такія, — заявіў Мікалай Ганчар: — Эканамічная інтэграцыя ні ў якой меры не пагражае суверэнітэту дзяржаў, аднак у той жа час суверэнітэт не павінен з'яўляцца перашкодай для эканамічнага ўзаемадзеяння. Інтэграцыя ў рамках СНД — жыццёвы інтарэс Расіі, прычым мы прымаем толькі схему індустрыяльнай эканомікі, але не сыравіннай.

Выступленне старшыні Камітэта па бюджэту і фінансах Савета Федэрацыі Расіі было сустрэта беларускімі дэпутатамі апладысментамі. Праўда, яны ў роўнай меры былі адрасаваны як выступленню, так і самому прамоўцу, паколькі па волі лёсу Мікалай Ганчар прыехаў у сталіцу Беларусі ў дзень свайго нараджэння.

У пэўнай меры міжнародны характар мае і другое пытанне ранішняга пасяджэння сесіі — праект Закона "Аб патэнтах на карысныя мадэлі". Як і папярэднія заканадаўчыя акты — аб патэнтах на вынаходствы, прамысловыя ўзоры, таварныя знакі, законапраект, вынесены на разгляд цяперашняй сесіі парламента, абараняе аўтарскія правы і з'яўляецца ў пэўнай ступені гарантам таго, што на заканадаўчым узроўні будуць замацаваны належныя адносіны да інтэлектуальнай уласнасці рэспублікі.

Аб праблемах уласнасці, праўда, матэрыяльнай, вялі размову дэпутаты і пры разглядзе ў другім чытанні праекта Закона "Аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці ў Рэспубліцы Беларусь". Прычым асаблівасць гэтага пытання парадку дня ў тым, што Закон быў прыняты народнымі дэпутатамі без якіх-небудзь вусных ці пісьмовых заўваг або пярэчанняў.

Дзённае пасяджэнне сесіі пачалося з паведамлення Старшыні Вярхоўнага Савета Мечаслава Грыба аб тым, што ў рабоце парламента прымаюць удзел члены дэлегацыі Сейма Рэспублікі Польшча. Пасля гэтага дэпутацкі корпус вярнуўся да абмеркавання законапраекта "Аб статусе Герояў Савецкага Саюза, Герояў Сацыялістычнай Працы, асоб, узнагароджаных ордэнам Славы трох ступеней". У ходзе разгляду праекта ў адрас распрацоўшчыкаў прагучала нямала крытычных заўваг, таму дакумент быў адпраўлены на дапрацоўку ў Камісію па справах ветэранаў і інвалідаў.

Даволі аператыўна папрацаваў дэпутацкі корпус над унясеннем змяненняў і дапаўненняў у палажэнне аб парадку аднаўлення правоў грамадзян, якія пацярпелі ад рэпрэсій у 20—80-я гады. Іх сутнасць, паводле слоў старшыні парламенцкай камісіі Віктара Піскарова, заключаецца ў тым, каб зрабіць больш справядлівым працэс аднаўлення правоў рэабілітаваных грамадзян. У прыватнасці, цяпер грашовая кампенсацыя пацярпеўшым будзе праводзіцца на аснове мінімальнай зарплаты, устаноўленай на момант яе выплаты, а не на момант прыняцця рашэння — па заяве грамадзян. Вяртанне маёмасці рэпрэсіраваным прадугледжваецца на працягу аднаго месяца, а не шасці, як было раней. У выніку паправак расшырана таксама кола асоб, якія адносяцца да ахвяр палітычных рэпрэсій.

Парламент вызваліў прадпрыемствы ад выплаты падаткаў па тавараабменных (бартэрных) аперацыях з каштоўнымі металамі, што залічваюцца ў Дзяржаўны фонд каштоўных металаў і каштоўных камянёў.

Станоўчае рашэнне прыняў Вярхоўны Савет і адносна законапраекта "Аб зборах на ўтрыманне пажарнай службы."

*БЕЛІНФАРМ.*



■ Традиции

## ВСЕГО БЫЛО ОТ ДУШИ

***Под таким заглавием на 2-й и 4-й страницах помещен фоторассказ о ярмарке "Золотая осень-94" в Молодечно, которая состоялась в минувшее воскресенье.***

***На этом снимке вы видите председателя Молодечненского райисполкома А.Е.ЛУНОВИЧА (слева) и председателя горисполкома Г.Д.КАРПЕНКО на ярмарке.***




## "КАНТАКТ-94"

Ужо сама назва выстаўкі, якая адкрылася 18 кастрычніка ў "Мінскэкспа" па праспекце Машэрава г. Мінска, вызначае мэты дзейнасці звыш сарака польскіх фірм, якія прымаюць у ёй удзел. Калі ў першай, майскай, былі пераважна пасрэдніцкія прынцыпы: купі—прадай, то зараз усе яны прапануюць уласную прадукцыю — прамысловыя і харчовыя тавары народнага спажывання, абсталяванне для магазінаў, міні-пякарняў, для ўпакоўкі прадуктаў, мэблю і многае іншае.

Выставак у нас праводзіцца нямала. Якая ж ад іх аддача? Ці садзейнічаюць яны абагачэнню нашага спажывецкага рынку, развіццю дзелавых узаемавыгадных кантактаў?

— Майская выстаўка прынесла нам дагаворы на пастаўку ў Беларусь мэблі: мы займаемся яе выпускам для магазінаў, бараў, рэстаранаў, гасцініц, службовых кабінетаў, а таксама для жылых пакояў, — зазначае прадстаўнік варшаўскай фірмы "Тэксі". — Зараз думаем наша супрацоўніцтва расшырыць і заключыць новыя кантракты.

А вось Анджэй Людвіг і Лешак Падханюк першы раз у Мінску, яны прадстаўляюць фірму "Хэмекс" з Чанстахова. Жакардавыя гардзіны і абрусы, баваўняныя тканіны — іх тавар. І, трэба сказаць, тавар вышэйшай маркі, адпавядае ўсім патрабаванням сертыфіката якасці. Думаецца, ні адна гаспадыня не адмовілася б ад яго.

Польшча наш бліжэйшы сусед і партнёр. І выстаўка, якая праводзіцца да 22 лістапада, будзе садзейнічаць далейшаму развіццю гандлёвых сувязей паміж польскімі і беларускімі прадпрымальнікамі.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## ПРЫЙШЛІ НА ДАПАМОГУ

Гаспадаркі Уздзеншчыны заканчваюць ўборку цукровых буракоў. Штодзень на Слуцкі і Гарадзейскі цукровыя заводы дастаўляюцца сотні тон салодкіх каранёў.

Нялёгка было б гаспадаркам раёна справіцца з гэтай работай уласнымі сіламі. На дапамогу ім прыйшлі вялікагрузныя аўтамабілі райаграпрамтэхнікі. У калгасы "Уздзенскі", "Звязда", саўгас "Гарадок" і іншыя гаспадаркі раёна штодзень адпраўляюцца ў сярэднім па 10—11 "ЗІЛаў", "КамАЗаў". З лепшага боку зарэкамендавалі сябе на адвозцы буракоў вадзіцелі С.С.Лыткін, В.А.Дашко, В.Л.Чуркін, В.К.Жук. У іх адрас чуваць толькі добрыя словы з боку кіраўнікоў гаспадарак, калгасных буракаводаў.

*Міхаіл БУЛАТ, супрацоўнік уздзенскай райгазеты "Чырвоная зорка".*

## БУРАКІ НЕ ПАДВЯЛІ

Працаўнікі калгаса "Камінтэрн" Дзяржынскага раёна ў аптымальныя тэрміны ўбралі бульбу, пад якой было 70 гектараў. Кожны даў па 143 цэнтнеры клубняў. Цяпер завяршаецца пераворванне бульбянішчаў. Гаспадарка на насенныя мэты заклала звыш 500 тон, 300 тон адборных клубняў рэалізавана дзяржаве. Упарадкаваны лён. Цяпер усе намаганні сканцэнтраваны на апошняй восеньскай "аперацыі" — уборцы буракоў і караняплодаў. Нягледзячы на спякотнае лета ураджай вырашчаны неблагі. Кожны гектар дае па 300—400 цэнтнераў каранёў. Для грамадскай жывёлы на стойлавы перыяд мяркуецца назапасіць каля 3 тысяч тон сакавітага корму.

Караняплоды ўбраны на палавіне плошчаў.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

■ У люстэрку статыстыкі

## Стабілізацыі не прадбачыцца

За дзевяць месяцаў сёлетняга года калгасы і саўгасы рэалізавалі мяса (у жывой вазе) 151,6 тысячы тон, што складае 92 працэнты да адпаведнага ўзроўню мінулага года. Скарацілася яго вытворчасць у 18 раёнах і 322 гаспадарках, якія гадуюць жывёлу і птушку.

За гэты час атрымана прыбаўлення ў вазе маладняку буйной рагатай жывёлы на гадоўлі і адкорме 72,3 тысячы тон — 96 працэнтаў да ўзроўню мінулага года, свіней — 35,8 тысячы тон, што складае 88 працэнтаў да мінулагодняга. У разліку на адзін кармадзень прыбаўленне ў вазе буйной рагатай жывёлы склала 366 грамаў, свіней — 282. (У студзені-верасні 1993 года было адпаведна 347 і 317 грамаў).

Калгасы і саўгасы надаілі 701,6 тысячы тон малака — 104 працэнты да мінулагодняга, або па 455 цэнтнераў у разліку на сто гектараў сельгасугоддзяў супраць 438,7 цэнтнера летась. Сярэдні надой ад каровы склаў 2.009 кілаграмаў малака, што на 110 кілаграмаў больш, чым за той жа мінулагодні перыяд.

Атрымана курыных яек 466,6 мільёна штук — 92 працэнты да адпаведнага ўзроўню мінулага года, 282 цэнтнеры воўны, што складае толькі палову атрыманага за дзевяць месяцаў летась.

Па стану на 1 кастрычніка ў гаспадарках налічвалася 1 мільён 23,2 тысячы галоў буйной рагатай жывёлы. У тым ліку 344,3 тысячы кароў і 629,3 тысячы свіней, што складае адпаведна 92,9 і 100 працэнтаў да мінулагодняга пагалоўя.

За дзевяць месяцаў усе катэгорыі гаспадарак прадалі дзяржаве 141,2 тысячы тон жывёлы і птушкі і 621,2 тысячы тон малака, што складае адпаведна 88 і 95 працэнтаў да ўзроўню мінулага года. Паменшылі продаж жывёлы і птушкі ўсе раёны вобласці, акрамя Крупскага.

З асабістых падсобных гаспадарак насельніцтва паступіла 4,6 тысячы тон жывёлы і птушкі — 70 працэнтаў да адпаведнага мінулагодняга ўзроўню і 42,8 тысячы тон малака, або толькі 44 працэнты да мінулагодняга.

Фермерскія гаспадаркі рэалізавалі 39 тон жывёлы і 55 тон малака.

*(Наш кар.).*

■ Резонанс

## ДЛЯ ШУМОВОГО ЭФФЕКТА

**Прочитав в "Мінскай праўдзе" письмо депутата областного Совета С.Д.Станкевича "Ці стане праект рашэннем", хочу высказать по этому поводу некоторые свои соображения.**

**Считаю, что сессия областного Совета, состоявшаяся 14 сентября т. г., рассмотрела актуальный вопрос "О работе исполкома по стабилизации экономики и внедрению рыночных отношений в АПК области". Все присутствовавшие депутаты и приглашенные смогли убедиться, с какой заинтересованностью и тревогой за состояние дел в этой отрасли народного хозяйства области шло обсуждение вопроса.**

Докладчик и выступавшие, кроме оценки ситуации, внесли целый ряд предложений по стабилизации экономики АПК. На мой взгляд, особенно интересными и содержательными были выступления депутатов Л.И.Кодлубовича, А.П.Радюка, Э.И.Умецкого, В.М.Луцкого и других. Ни одно предложение, прозвучавшее в выступлениях, не противоречило имевшемуся у нас проекту решения сессии областного Совета. В связи с этим мне непонятна позиция депутата С.Д.Станкевича, который почти все отрицает, не предлагая ничего конкретного и конструктивного. Даже проект решения называет засекреченным. Какая может быть засекреченность, если депутаты получили его обычной почтой за 2 недели до начала работы сессии. Могли при желании уточнить его отдельные пункты, организовать обсуждение и, естественно, высказать свои предложения.

Далее автор письма делает вывод: "Гэты праект рашэння, думаю, можна расцэньваць як... узор бездапаможнасці і, мякка кажучы, невысокай кампетэнтнасці нашых абласных структур, якія адказваюць за аграпрамысловы комплекс". Следуя логике, выходит "по Станкевичу С.Д.", что некомпетентны и те депутаты, которые приняли участие в обсуждении вопроса и внесли свои предложения, не противоречащие разработанному проекту решения, а наоборот, расширившие и дополнившие его отдельные положения. То же самое можно предположить (по Станкевичу) о членах редакционной комиссии, которая предложила принять проект за основу.

О компетентности других Станкевичу С.Д., видимо, не следовало бы судить в своем письме, а лучше было бы как депутату доказать это с трибуны областной сессии в прениях по обсуждаемому вопросу и внести конкретные предложения для принятия решения. Однако в ходе обсуждения доклада им этого сделано не было. Вместо конкретных предложений по выходу из критической ситуации Станкевич С.Д. дает оценки и приклеивает ярлыки "некомпетентности". Такая позиция депутата непонятна.

Мне пришлось проработать в сельском хозяйстве более 10 лет. Так уж сложилось, что достались именно те хозяйства, где преобладали "сложные условия производства".

Трудно было вести хозяйство раньше, теперь эти трудности многократно возросли. И я всегда с большим уважением и вниманием отношусь к мнениям и предложениям наших опытных руководителей и по-доброму завидую успехам колхозов им. Дзержинского Дзержинского района, "Рачковичи" Слуцкого, "Логоза" Логойского и других, где работают депутаты областного Совета — опытные и толковые организаторы сельскохозяйственного производства. Возьмем, к примеру, Леонида Ивановича Кодлубовича, проработавшего более четверти века в сельском хозяйстве. Кто побывал в руководимом им колхозе, тот значительно обогатил себя знаниями и укрепил веру в коллективное сельское хозяйство. И с мнением таких руководителей необходимо считаться, от этого выиграет наше общество.

Второй вывод С.Д.Станкевич как бы примеряет к себе, утверждая, что этот проект решения можно расценивать и как "карыслівы разлік зацікаўленых абласных структур на абыякавасць дэпутацкага корпуса, дазваляючага ім і надалей бестурботна існаваць;... насмешку з боку аўтараў праекта рашэння над маўклівым, абыякавым "адабрамс". Видимо, Станкевич себя к "абыякавым" депутатам не относит. Его письмо в "Мінскай праўдзе" — тому подтверждение. Но это только для шумового эффекта. А для дела нужны конкретные предложения по обсуждаемым вопросам.

*Виктор ТУМАКОВ, депутат областного Совета по Гливинскому избирательному округу №44, председатель колхоза "Путь Ленина" Борисовского района.*



## Краткая информация об условиях открытой продажи акций ОАО "Солигорскводстрой"

**Открытое акционерное общество "Солигорскводстрой" находится по адресу: г. Солигорск, ул. Строителей, 30.**

Основными видами хозяйственной деятельности акционерного общества являются: строительство объектов гидротехники и мелиорации, выполнение специальных, строительно-монтажных работ, возведение некрупных объектов сельского, жилищного, дорожного строительства, добыча гравия, выпуск товаров народного потребления, ремонт и эксплуатация мелиоративно-строительной техники, объектов энергетики и транспорта, коммерция, посредническая деятельность и другие.

Размер уставного фонда — 2.722.000 тыс. рублей (с учетом деноминации).

Уставный фонд делится на 272.200 штук простых именных акций номинальной стоимостью 10.000 рублей каждая.

Доля государства в уставном фонде — 100%.

**Продажа акций начинается с момента опубликования данной краткой информации, заверенной Госинспекцией Республики Беларусь по ценным бумагам, и производится в бухгалтерии ОАО ежедневно, с 9 до 16 часов, кроме пятницы, субботы и воскресенья, по адресу: гор. Солигорск, ул. Строителей, 30.**

В соответствии с поручением Мингосимущества Республики Беларусь, до 23 января 1995 года проводится льготная продажа акций по цене, которая на 20% ниже номинальной стоимости, в количестве 50% принадлежащих государству акций, или 136.100 штук простых именных акций, работникам преобразованного государственного предприятия и приравненным к ним лицам.

После 23 января 1995 года лица, имеющие право на льготную покупку акций, приобретают их по курсовой стоимости, сниженной на 20%.

**50%, или 136.100 штук простых именных акций, реализуется за именные приватизационные чеки "Имущество" в соответствии с действующим законодательством Республики Беларусь и порядком, установленным Мингосимуществом Республики Беларусь.**

Средства на льготную покупку акций вносятся в бухгалтерию ОАО и на расчетный счет ОАО №386402 в Агропромбанке гор. Солигорска.

Размер дивидендов и порядок их выплаты определяется собранием акционеров по итогам работы за год.

С проектом эмиссии можно ознакомиться ежедневно, с 9 до 16 часов, кроме пятницы, субботы и воскресенья, по адресу:

**гор. Солигорск, ул. Строителей, 30, тел. 2-34-81.**





***НАДВОР"Е***

***Сёння ўдзень па вобласці чакаецца халоднае надвор"е, без ападкаў. Тэмпература паветра -- 1 -- 6, у Мінску -- 2 -- 4 градусы цяпла.***

■ Традиции




# Всего было от души

В минувшее воскресенье необычный вид с самого утра начала приобретать центральная площадь Молодечно. Как по "щучьему велению" выросли здесь торговые ряды, многочисленные ярко украшенные палатки. Одна за другой подвозили сюда машины картофель, капусту, овощи и фрукты, свежее мясо и рыбу и прочие дары щедрой молодечненской земли. А еще через час-другой заполнилась площадь народом, зазвенела над ней веселая мелодия "Лявоніхі", поплыл над головами аппетитный шашлычный дымок. Вот так, в солнечный октябрьский денек, и началась традиционная "Золотая осень-94".

Как говорится, на ярмарке у каждого свое дело. Так и здесь — кто пришел музыкантов послушать, кто на зиму продуктами запастись... Вон под одобрительные шуточки соседей бойкая молодица поросенка в мешок заталкивает. Всей семьей — от бабушки до внука — тянут гости полную тележку капустных кочанов. Зимой-то квашеную, да с бульбой... Ух!

Несколько необычно, что в нынешнем году у "Золотой осени" два устроителя. И когда в разгар ярмарки закончил свое выступление один из музыкальных коллективов, поднялись на площадку два "хозяина" — председатель Молодечненского райисполкома А.Е.Лунович и мэр города Г.Д.Карпенко. Провести, так сказать, "смычку" города с деревней. Тепло поздравили они и хозяев, и гостей ярмарки, поблагодарили тружеников села, стараниями которых и радовали прилавки щедрым изобилием. А потом от района городу — каравай... Сдобный, пахучий... А от города району — по куфлю доброму... Чего уж там в куфлях было — не пробовал, врать не буду, а вот каравай на славу удался, куда там заморским печеньям.

На ярмарке — весело, а вот, чтобы провести ее, серьезная работа понадобилась. О ней я попросил рассказать генерального директора агрокомбината "Молодечненский" П.П.Кулеша.

— Всего в наш агрокомбинат, — сказал Петр Петрович, — входит 39 хозяйств. Тридцать из них привезли на эту площадь свою продукцию. И сегодня вы можете купить 15—16 наименований колбас и колбасных изделий, изготовленных в собственных цехах колхозов имени Дзержинского и "Городилово", из тех же хозяйств привезли на продажу мед. Два агропредприятия торгуют всем ассортиментом овощей, два — гречкой, один колхоз предлагает покупателям баранину, а три хозяйства — живых поросят.

Не только продукцией полей и ферм ограничивается ассортимент ярмарки. Так, на прилавках районной "Сельхозхимии" можно найти различные виды удобрений, райсельхозэнерго предлагает богатый выбор электрооборудования, семенная станция торгует семенами злаков и трав. Не остались в стороне предприятия города. Свою продукцию — от колбас до пельменей — привез мясокомбинат, широко представлена продукция молочного и пивоваренного заводов, предприятий районной потребкооперации, малых коммерческих фирм.

Ранее подобные ярмарки проводились обычно в одном из хозяйств района. Нынче, учитывая потребность горожан сделать запасы на зиму, решили организовать "осень" в самом Молодечно. С пониманием отнеслись к этому решению руководители хозяйств. Они не только позаботились о том, чтобы всего было вдоволь, но и о том, чтобы цены здесь были по карману. Скажем, на 40—50 процентов дешевле, чем на базарах и в магазинах Минска, здесь можно было купить картофель и капусту, на 20—30 — мясо, колбасные изделия...

...У доброго народа и праздники, как известно, добрые. Так и здесь. А когда еще и хлеб на столе есть, и к хлебу что-нибудь, так и совсем хорошо. Расторговавшись, сели деревенские дядьки в импровизированном мини-кафе— чтоб с ярмарки да без магарыча? Выпили, крякнули, закусили непривычным городским шашлыком. Один и говорит другому: "Во, ажно душа ў вырай падалася..." Ну, раз душе хорошо на ярмарке, значит, еще не все так плохо.

*Александр ИВАНОВ.*

**На снимках:** во время ярмарки.

*Фота Анатолия БАСОВА.*





■ Рэха

# "Няхай сабе ўлады "разводзяцца", абы з розумам ды людзям на карысць...

**"З сённяшняга дня Савецкая ўлада ў нас ліквідуецца", — гэтае выказванне аднаго з парламентарыяў на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі яшчэ доўга, відаць, будзе "будоражить умы". А прагучала яно, калі вы памятаеце, пасля таго, як Прэзідэнт А.Лукашэнка прадставіў на разгляд дэпутатаў змяненні і дапаўненні ў Закон аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы.**

**Для тых, хто яшчэ "не дайшоў", нагадаю: скасаваны Саветы пярвічнага ўзроўню — сельскія, пасялковыя, гарадскія раённага падпарадкавання і раённыя ў гарадах, на месцы якіх, акрамя двух апошніх, мяркуецца стварыць мясцовую адміністрацыю. Пасады старшыні Савета і старшыні выканаўчага камітэта будуць "раз'яднаны".**

**Дык што ж ўсё-такі адбылося ў грамадстве?.. Людзі дзяржаўныя мяркуюць на гэты конт вось так:**

—УЖО не першы дзень я думаю аб карэкціроўцы памянёнага Закона, — гаворыць **народны дэпутат Рэспублікі Беларусь У.Н.Дражын (старшыня Нясвіжскага райсавета і выканкома).** — Рэфармаванне ўладных структур неабходна. Але мы не павінны дапусціць аслаблення органаў прадстаўнічай улады за кошт узмацнення выканаўчай. Мы не павінны страціць дэмакратыю, да якой так доўга ішлі...

Што датычыць пярвічнага звяна, то яно сапраўды было, што называецца, ганаровым. Вырашаць надта многае дэпутаты і праўда не вырашалі. А вось калі весці гаворку пра рэфармаванне раённага звяна, то на гэтым узроўні, лічу, абавязкова павінен захавацца Савет як прадстаўнічы орган. На абласным — таксама. Таму я — за моцную выканаўчую вертыкальную ўладу, але не за кошт ушчамлення прадстаўнічай.

І сутнасць не ў тым, якая з уладных галін "старшая па чыну" на тэрыторыі рэгіёна: няхай яны абедзве балансуюць, дапаўняюць адна адну.

Увогуле ж, думаецца мне, пытанне пра ўладу на цяперашні момант не самае галоўнае. Жыццё наша напрамую залежыць ад таго, як будзе працаваць эканоміка. Няправільна думаць: вось, маўляў, памяняем структуру ўлады, і ўсё запрацуе. Дазвольце не згадзіцца. Толькі адзін прыклад: нашаму раёну даўжнікі вінаватыя на сённяшні дзень 8 млрд. рублёў — за цукровыя буракі, мяса, малако. А мы не можам купіць паліва!

Словам, калі сапраўды працуе эканоміка, дык і ўлада тады добрая...

—ЧЫМ МЕНШ адказных за справу, тым больш карысці для самой справы, — такім бачыцца вынік першага этапу рэфармавання ўладных структур **дэпутату абласнога Савета, намесніку старшыні Мінскага райвыканкома І.І.Зіновічу.** — У дэпутатаў сельскіх Саветаў не было фактычна ніякіх дэпутацкіх правоў. Уздзейнічаць на вырашэнне колькі-небудзь сур'ёзных пытанняў яны ніколі не маглі. Вось, бывала, звяртаецца дэпутат сельсавета да калегі раённага ці абласнога ўзроўняў: маўляў, дапамажыце справу з месца скрануць!..

Навошта ж дубліраваць адзін аднаго? Дэпутаты раённых Саветаў у стане займацца наказамі сялян на месцах. Які толк ад мноства дэпутатаў, выбраных ледзь ці не ад кожнай вясковай вуліцы і бездапаможных? Тым больш што ў райсавеце ёсць і, упэўнены, будуць у далейшым прадстаўнікі ад кожнага буйнога населенага пункта.

—ПАКУЛЬ у прэсе не надрукаваны адпаведны дакумент, даваць грунтоўную ацэнку таму, што адбылося 6 кастрычніка, няпроста, — заначыў **дэпутат абласнога Савета С.С.Маляўскі, намеснік старшыні Валожынскага раённага Савета дэпутатаў.** — Скажу толькі, што мае асабістыя адносіны да так званых пярвічных Саветаў даволі складаныя. Займаючыся па роду сваёй дзейнасці работай сельсаветаў, бяру на сябе смеласць сказаць, што добра ведаю іх беды і праблемы. Таму і сумняваюся ў тым, што мясцовая адміністрацыя ў колькасці трох чалавек (а пра такую перспектыву ішла гаворка на сесіі Вярхоўнага Савета) у стане справіцца з тым возам, які цягне сельскі Савет. Няхай сабе яго дэпутаты і не вырашалі штосьці эпахальнае, але, лічу, старшыня сельсавета меў у іх асобе нейкае "плячо". Калі тыя ж паліўна-газавыя праблемы (а з імі ў асноўным спраўляліся на месцах) перакінуць на райвыканком, то цяжка прыйдзецца вяскоўцу — пры сённяшніх транспартных зносінах ды ў такім вялікім раёне, як наш.

У мяне выклікае пэўныя хваляванні далейшы ход рэформы. Скажам, як на самай справе будзе выглядаць раз'яднанне пасад кіраўнікоў прадстаўнічай і выканаўчай улады? Усё гэта мы ўжо "праходзілі" — дарэчы, не так даўно. І я добра памятаю, што функцыі старшыні Савета і старшыні выканкома гэтага ж Савета не заўсёды былі дакладна размежаваны. У такіх выпадках многае залежала канкрэтна ад кожнага з іх. Вось калі б існаваў адпаведны Закон, які б акрэсліваў паўнамоцтвы абодвух старшыняў... Над гэтым трэба яшчэ добра падумаць, каб не паўтарыць учарашніх памылак.

—ПРАПАНОВУ Прэзідэнта аб скасаванні мясцовых Саветаў успрымаю як з'яву вельмі станоўчую, — выказаўся **старшыня Негарэльскага пасялковага Савета Дзяржынскага раёна А.У.Скарабагатаў, таксама дэпутат аблсавета.** — Хоць у адносінах да самога Прэзідэнта я — у апазіцыі. Дакладна ведаю: дэпутацкая работа на пярвічным узроўні ніякай карысці не давала і даваць не будзе. Сесіі носяць рэкамендацыйны характар. У любым выпадку трэба круціцца самому старшыні: дэпутаты проста, што называецца, бяруць за горла — давай, вырашай! А самі нічога рабіць не хочуць. Лічу, што за статусам вясковага дэпутата стаяла толькі бачнасць народаўладдзя.

А каб была магчымасць апаратыўна працаваць з насельніцтвам, аб чым-небудзь паведаміць ці раздаць якія картачкі (бо добрага жыцця, упэўнены, пакуль што чакаць не даводзіцца), дастаткова абраць на вёсцы старасту ці кагосьці ў гэтым родзе...

**Хто б мог падумаць, штоледзьвене святы калісьці лозунг: "Уладу — Саветам" зменіць другі: "Уладу — ад Саветаў". Але, як зазначыў адзін дзядок у перапоўненым аўтобусе: "Няхай сабе ўлады "разводзяцца", абы з розумам ды людзям на карысць". Так ці не так, суграмадзяне-браткі? У рэшце рэшт, нам — вырашаць...**

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

■ Тэатр

## "ПІНСКАЯ ШЛЯХТА" У НЯСВІЖЫ

Даўным-даўно Уршуля Радзівіл пісала свае п"есы. Потым ставіла іх. Глядзець пастаноўкі збіралася панства з усёй ваколіцы. Артысты былі з прыгонных сялян, але якігралі! Радзівілаўскі тэатр славіўся на ўсю акругу.

Прайшлі гады, а ў Нясвіжы па-ранейшаму жыве і дзейнічае тэатр. І калі на сцэне раённага Дома культуры адкрываецца прыгожая заслона з адлюстраваннем замка і брамы, сініх, як неба, васількоў, да гледачоў выходзяць акцёры Нясвіжскага народнага тэатра. Яму ўжо шмат гадоў, а ганаровае званне народнага калектыў атрымаў не так даўно.

Міналі вёсны і зімы, мяняўся састаў, але заставаліся жыць традыцыі, энтузіязм і жаданне творча працаваць. Нялішне будзе нагадаць некаторыя спектаклі з рэпертуару тэатра: "Не ўсё кату масленіца", "Выбачайце, калі ласка!", "Прымакі", "Мікітаў лапаць", "Аптымістычная трагедыя"...

І вось нядаўна адбылася прэм"ера — пастаўлена "Пінская шляхта" В.Дуніна-Марцінкевіча. На спектаклі, дарэчы, аказалася шмат моладзі, школьнікаў.

А паглядзець сапраўды было на што. Прыгожыя нацыянальныя касцюмы, маляўнічыя дэкарацыі, вясёлыя народныя песні надалі п"есе цудоўны фальклорны каларыт. А самае галоўнае — тое, што адбывалася на сцэне: жыла і сварылася, кахала і спявала, адстойвала свой гонар пінская шляхта. Пыхлівы Пратасавіцкі абураўся тым, што Цюхай-Ліпскі "абазваў" яго мужыком, ад чаго і пайшла ўся мітусня. Між тым, дзеці варагуючых шляхціцаў, Грышка і Марыся, кахаюць адно аднаго і мараць узяць шлюб. Бацькі, вядома, супраць — і пачынаюцца розныя калізіі.

Думаю, няма патрэбы пераказваць сюжэт, бо ўсе яго ведаюць са школьнай парты. А вось пра выканаўцаў сказаць варта. Як заўжды выдатна і прафесійна вялі свае ролі М.Дрозд/Пратасавіцкі/ і Э.Булат /жонка Пратасавіцкага/. Створаныя імі вобразы,простыя і камічныя, захапілі гледачоў. Як і станавы прыстаў Кручкоў у выкананні Г.Шаблоўскага. Акцёр здолеў перадаць пыхлівасць свайго героя, яго сквапнасць. У ролі Куторгі выступіў ветэран вайны і працы М.Яроцкі. Яго персанаж пасвойму адметны — ціхі і хітры прайдзісвет. З абавязкамі вядучай выдатна справілася Т.Ярмоленка.

Добра "ўпісаліся" ў агульны малюнак тэатральнага дзейства маладыя артысты Яўген Атрахімовіч, Ала Ганецкая, Яўген Чэнякін, Улад Басклееў. Калі першы з іх ужо мае пэўны акцёрскі вопыт, то астатнія ў "Пінскай шляхце" дэбютавалі.

*Раіса ХВІР.*

# Удар па інфляцыі?

## Нацыянальны банк мяняе фінансава-крэдытную палітыку

Здароўе эканомікі ў многім залежыць ад фінансава-крэдытнай палітыкі. Яна ж Нацыянальным банкам па ўзгадненню з Міжнародным валютным фондам зараз мяняецца. Падрыхтаваны праект пастановы Вярхоўнага Савета аб аб'яўленні беларускага рубля адзіным законным плацежным сродкам у Беларусі. Рыхтуюцца нарматыўныя дакументы аб забароне з 1 студзеня 1995 года рознічнага гандлю на замежную валюту, уключаючы і расійскі рубель. Распрацоўваецца парадак вызначэння рыначнай працэнтнай стаўкі за крэдыты і яе выкарыстанне камерцыйнымі банкамі пры іх выдачы. З першага лістапада ажыццяўляецца пераход на 50-працэнтны абавязковы продаж выручкі ў расійскіх рублях.

Уносіцца прапанова аб адмене ў 1995 годзе абавязковага продажу ўсіх відаў замежнай валюты. Адначасова развіваецца міжбанкаўскі валютны рынак. Здымаюцца дадатковыя абмежаванні па валютных аперацыях, скасоўваецца мноства абменных курсаў.

З новага года юрыдычныя і фізічныя асобы змогуць свабодна пераводзіць безнаяўныя рублі дэпазітаў у наяўныя і наадварот у межах той сумы, якая маецца ў кліента банка. Прычым прапануецца адмяніць дэклараванне сродкаў, якія ўносяцца на дэпазіты.

Вызначана адказнасць камерцыйных банкаў за неабгрунтаваную, на тэрмін звыш 2 дзён, затрымку залічэння сродкаў на рахункі гаспадарчых суб'ектаў, якія паступілі ў іх адрас.

Прынцыпова іншай становіцца палітыка Нацыянальнага банка адносна выдачы прадпрыемствам датацый па льготных працэнтах. Сёлета асобныя з іх атрымаюць 100 мільярдаў рублёў, а з новага года наогул спыніцца выдача такіх субсідый за кошт сродкаў Нацыянальнага банка. Ён жа рэкамендуе прадастаўляць крэдыты пераважна на вытворчыя мэты, на падтрымку выпуску тавараў народнага спажывання. Пры гэтым не павінны крэдытавацца запасы гатовай прадукцыі, выкліканыя абмежаваннем збыту ці адсутнасцю попыту на яе. Крэдыты на пасрэдніцкія аперацыі павінны выдавацца на тэрмін не больш аднаго месяца.

Узрасла сума эмісіі (выпуску грошай у абарачэнне) на чацвёрты квартал. Раней меркавалася яе ўзровень давесці да 326 мільярдаў рублёў. Лічылі, што прырост спажывецкіх цэн за гэты перыяд дасягне 57—60 працэнтаў. Аднак, на думку экспертаў Нацыянальнага банка (з ёю згодны і Міжнародны валютны фонд), антыінфляцыйныя меры праграмы па выхаду з эканамічнага крызісу выклічуць да канца года рост цэн на спажывецкія тавары на 65—70 працэнтаў. А больш высокія тэмпы інфляцыі рэзка павялічаць сукупны валавы нацыянальны прадукт, што запатрабуе дадатковай грашовай масы, а значыць — і крэдытаў Нацбанка. Таму і прадугледжаны дапушчальны прырост крэдытнай эмісіі Нацыянальнага банка на чацвёрты квартал у суме 345 мільярдаў рублёў. З іх 170 мільярдаў выдзеляць на пакрыццё дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту. Гэтая сума ўзгоднена з урадам, Міжнародным валютным фондам і не падлягае перагляду.

Цяпер застаецца спадзявацца на тое, што вышэйшыя органы ўлады адмовяцца ад неабгрунтаваных уліванняў у эканоміку. Інакш немагчыма дабіцца стабілізацыі плацежнага балансу і мінімізацыі ўзроўню інфляцыі, па якому Беларусь уступае хіба толькі тым рэспублікам былога Саюза,што знаходзяцца ў стане вайны.

Сярэднямесячная інфляцыя сёлета за тры кварталы склала ў нас 27 працэнтаў. Ставіцца задача давесці яе да канца года да 10—11 працэнтаў, а да канца наступнага — да 3—4 працэнтаў у месяц. Менавіта гэта і не задавальняе той жа Міжнародны валютны фонд. Ён патрабуе: не менш 1 працэнта. Наш урад пакуль што не згаджаецца. Любое ж зніжэнне інфляцыі вядзе да рэзкага скачка цэн. А ў нас жыццёвы ўзровень людзей і так вельмі нізкі, многія аказаліся на мяжы ці за рысай беднасці.

Ці надоўга ў Кабінета Міністраў хопіць цвёрдасці? Асобныя кіраўнікі высокага рангу гавораць, што ўрад гатовы прыняць умовы фонду. Як зазначыў адзін з намеснікаў прэм'ер-міністра: "Усе прайшлі праз гэта, давядзецца і нам прайсці".

А нам вельмі патрэбна фінансавая дапамога з боку Захаду. Пакуль жа нічога важкага ад яго мы не атрымалі. У апошні час прайшла інфармацыя аб 30 мільёнах долараў, выдзяляемых Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця на развіццё дробнага бізнесу. Пагадненне аб гэтым мяркуецца падпісаць у канцы лістапада. Абавязковая ўмова атрымання валюты— папярэдняе падпісанне ўрадам рэспублікі і МВФ мемарандума аб эканамічнай палітыцы Беларусі.

Крэдыт выдаецца на 15 гадоў пад 7 працэнтаў гадавых з адтэрміноўкай плацяжоў на два гады. Першую суму ў памеры 15 мільёнаў долараў можам атрымаць на працягу двух гадоў. Яна пойдзе на развіццё банкаўскай сістэмы. Найбольш магчымыя прэтэндэнты — Пріорбанк, Беларусбанк і Белбізнесбанк, якія непасрэдна будуць і рэалізоўваць атрыманы крэдыт, выбіраючы канкрэтныя праекты. Патрабаванні да іх: валютаакупнасць, тэрмін рэалізацыі — да 7 гадоў, арыентацыя на арганізацыю прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, аказанне паслуг насельніцтву. Разліковы кошт кожнага праекта — не больш як 2 млн. долараў з улікам таго, што частка затрат на яго рэалізацыю будзе аплачвацца самім прадпрыемствам-прэтэндэнтам. Работа па крэдытнай лініі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця павінна пачацца з новага года.

Хацелася б спадзявацца, што гэтая фінансава-крэдытная палітыка ў сукупнасці з іншымі эканамічнымі мерамі дапаможа запаволіць тэмпы інфляцыі, будзе садзейнічаць стабілізацыі курса беларускага рубля, нармалізацыі разліковага працэсу, стане неадольным бар'ерам у падзенні аб'ёмаў вытворчасці, створыць трывалы падмурак для фарміравання цывілізаванага грашовага рынку.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## Маскоўскія навіны

### ПАРАД ПЕРАМОГІ Ў СКАРОЧАНЫМ ВАРЫЯНЦЕ

Парад Перамогі адбудзецца 9 мая 1995 года ў Маскве. Але, на жаль, у скарочаным варыянце — без тэхнікі і іншых "празмернасцей" на зямлі і ў небе. На правядзенне гэтага свята, на жаль, выдзелена толькі 3,2 мільярда рублёў: просьба Мінабароны ўрэзана ў тры разы.

Урад палічыў, што дастаткова прайсціся па Краснай плошчы 500 ветэранам з Расіі, краін СНД, прапусціць юных барабаншчыкаў, каравул трох радоў войск, слухачоў ваенных акадэмій, палкі... Па плошчы пранясуць Сцяг Перамогі, вымпелы франтоў, 150 сцягоў злучэнняў і часцей, якія вызначыліся ў Вялікай Айчыннай вайне. Плануецца, што другі раз кідаць сцягі і штандарты пераможаных гітлераўскіх дывізій да падножжа Маўзалея не будуць.

### НА КАЛЯДЫ ПАКАШТУЮЦЬ ІНДЫЧКІ

У Падмаскоўі пачалася прамысловая вытворчасць індычак па галандскаму метаду і тэхналогіі. Індычка выцесніла мяса на Захадзе, цяпер вось і новыя рускія ў першую чаргу пераходзяць на заходняе меню. Закупка маладняку — у Галандыі, рацыён і кармы таксама галандскія. Толькі гэты камплект гарантуе высокую якасць, экалагічную чысціню дыетычнага прадукту, які поўнасцю адпавядае санітарным нормам. Ну а парцыённае мяса, каўбасу, паштэты, вяндліну ўжо можна даверыць вырабляць і нашым, айчынным вытворцам.

### АД МАНЕЖНАЙ ДА БЕЛАРУСКАГА

Па такім маршруце ў некалькі этапаў будзе пракладзены новы падземны паверх — цэлы падземны горад палацаў, банкаў, рэстаранаў, аўтастаянак і нават музеяў. На Манежнай плошчы будаўнікі пачалі ўжо будаваць "сцены ў грунце" — для заліўкі бетону. Прымяняецца спецыяльнае імпартнае абсталяванне фірмы "Баўэр". Будучы падземгорад працягнецца ўздоўж Цвярской да Беларускага вакзала. Першая чарга, як мяркуецца, будзе пабудавана да 850-годдзя Масквы.

### ПОМНІК БЕЗ ВЕСТАК ПРАПАЎШАМУ

Згодна з горкай статыстыкай ГУУС, за апошнія 10 гадоў у Расіі прапала без вестак звыш 20 тысяч чалавек. Паказчык мінулага года перакрыты ўдвая. Прападаюць дзеці, дзяўчаты, бізнесмены. А больш за ўсё знікае адзінокіх старых. Пагаворваюць аб устаноўцы ў сталіцы помніка без вестак прапаўшаму грамадзяніну.

### УСПОМНЯЦЬ НЕ АДНОЙЧЫ

Ужо два гады, як Масква адмовілася практычна поўнасцю ад беларускай бульбы. І ўсе гэтыя гады масквічы з цеплынёй успамінаюць сапраўдную беларускую бульбу, праклінаючы сваю — гнілую і дробную. У гэтым годзе сталіцу наваднілі тоны недабраякаснай бульбы новага ўраджаю з сумежных абласцей. Зусім непрыгодную бульбу прывозяць з Бранскай і Арлоўскай абласцей: яна паступае зялёная, гнілая. Спецыялісты сцвярджаюць, што такія клубні ўтрымліваюць яд саланін, які выклікае харчовыя атручэнні.

### МЕТРАПАЛІТЭН РАЗРАСТАЕЦЦА І ДАРАЖЭЕ

Мэрыя зацвердзіла план развіцця метрапалітэна да 2000 года. Новыя лініі злучаць новыя мікрараёны — Мар"інскі парк, раён Бутава, парк Перамогі, Міціна. Пачата будаўніцтва другіх выхадаў на старых станцыях, такіх як ВДНГ, Беларуская-Кальцавая, Павялецкая-Кальцавая, Баўманская, Кіеўская, Парк культуры. Пракладваецца лінія да новабудоўлі, праекта стагоддзя "Масква-сіці".

Метрапалітэн працуе і працягвае зарабляць грошы — цяпер адна паездка ў метро каштуе 250 рублёў, а праязны — даражэй за мінімальную зарплату масквіча.

### "ТРЫЯДА" МЭРА ЛУЖКОВА

Злыя языкі гавораць, што ў мэра Масквы Юрыя Лужкова — тры хобі: гэта АМОН, футбол і будаўніцтва. Сапраўды, нечаканая "трыяда".

Што датычыць АМОНа, то сёння ў сталіцы, дзе дзейнічае Закон аб абавязковай рэгістрацыі прыезджых і своеасаблівай даніне за пражыванне, вядзецца барацьба з "чаўнакамі" на "блышыных" рынках і асобамі каўказскай нацыянальнасці, без АМОНа не абысціся. Грашыць часам мэр і сваімі сустрэчамі на футбольных палях з расійскімі вярхамі. Як кажуць, захапленні маладосці бясследна не знікаюць. Знаходзіць пацвярджэнне і "сувязь" мэра з будаўнікамі: у многім дзякуючы яго ўдзелу ўзрос аўтарытэт будаўнічай галіны. Цяпер на будоўлі па конкурсу прымаюць, таму што сярэднія заробкі тут складаюць ад мільёна рублёў і вышэй. Акрамя таго, мэрыя Масквы прыняла рашэнне абмундзіраваць будаўнікоў — ад разносчыкаў раствору да кіраўніка дэпартамента мэрыі па будаўніцтву — ва уніформу.

### КУПЛЯЕЦЦА ЎСЁ — АД ДЫПЛОМА ДА ОРДЭНА

Сёння ў Маскве можна купіць усё: кватэру, прапіску, адукацыю, узнагароды. Як правіла, прыём ва ўсе прэстыжныя ВНУ і школы — на камерцыйнай аснове: заплаціў — вучыся на здароўе. Хочаш, скажам, да Дня Перамогі абзавесціся ордэнам — прыходзь на Таганку. Тут выбераш сабе любую ўзнагароду. Нямецкія ордэны таннейшыя, але, як правіла, падробка. Нашы ідуць даражэй, асабліва з ордэнскай кніжкай. Медаль, скажам, "За абарону" каштуе пяць тысяч рублёў. А вось ордэн Леніна з дакументам — 700 долараў. І Зорка Героя Савецкага Саюза — па такой жа цане. Але самым дарагім з"яўляецца ордэн Суворава: ён рэдкі і цягне на 4.000 "баксаў".

*БЕЛІНФАРМ.*

